ПРАВА
ВЕСНІК АБАРОНЧЫ
СТУДЗЕНЬ, **2014**
ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

ААН разглядае скаргу аб забароне пікетаў у падтрымку Алеся Бяляцкага
СТАР. 3

ЕС просіць не расстрэльваць забойцу гомельскай студэнткі
СТАР. 4

# Валянцін Стэфановіч. В защиту «Щ» (фельетон)



***Странный сон приснился мне вчера. Будто стою я, значит, возле 23-ей гимназии – ну это та, что на проспекте, одетый в черную майку с буквой «Щ» на груди и держу плакат в руках: "Это была последняя русскоязычная гимназия в Минске".***

Подходит ко мне директриса гимназии и говорит: «Ну што вы, Валянцін Канстанцінавіч, так разнерваваліся, ну чытае новы настаўнік дзецям фізіку па-беларуску, а вы думаеце – лёгка зараз рускамоўнага знайсці? Ды і потым, дзецям цяжка фізіку на рускай вучыць, шмат хто не разумее, бацькі скардзяцца!"

Не успел я ей ответить, как менты подхватили меня под руки и в воронок заволокли, несанкционированный пикет, говорят. Отвезли в РУВД ближайший, составили побыстренькому протокол об административном правонарушении за этот самый несанкционированый пикет и в суд заволокли.

Захожу в помещение, сидят за столами судья, секретарша – ничего себе, кстати, такая, белявенькая, в мини-юбочке, но не об этом я.

Ну, судья мне так скороговоркой и говорит: "Слухаецца справа аб адміністрацыйным правапарушэнні па артыкуле… суд у складзе суддзі…."

"Извините, а можно по-русски," – говорю я им в своем сне.

А судья мне: "Не перабівайце суддзю, калі хочаце нешта суд папрасіць, для гэтага ёсць хадайніцтвы, вам зразумела?"

Я: «Тогда я заявляю ходатайство. Учитывая, что в соответствии со ст.17 Конституции Республики Беларусь у нас два государственных языка, и одним из языков судопроизводства является русский, я прошу вести процесс на русском языке. Вот!»

Судья: «Суд, параіўшыся на месцы, вызначыў: хадайніцтва адхіліць. Згодна з арт. 17 Канстытуцыі Беларусі, дзяржаўнымі мовамі з'яўляюцца руская і беларуская. Таму судовае паседжанне будзе весціся па-беларуску. Вы беларускую мову разумееце?"

**Працяг на стар. 2**

# Вярхоўны суд: рашэнні Камітэта ААН па правах чалавека выконвацца не будуць

Рашэнні Камітэта ААН па правах чалавека не з'яўляюцца падставай для пакрыцця маральнай шкоды. Пра гэта ў адрас праваабаронцы Леаніда Судаленка, які праз суд спрабаваў спагнаць маральную шкоду ў сувязі з невыкананнем рашэння ААНаўскага Камітэту, паведаміў намеснік старшыні Вярхоўнага суда Андрэй Забара.
Праваабаронца заяўляе, прававая пазіцыя Вярхоўнага суду сведчыць аб тым, што суддзі фактычна адмаўляюцца ад сваіх абавязкаў прызнаваць і гарантаваць правы і свабоды грамадзян.

*"Мяне, як грамадзяніна, не цікавіць нацыянальнае заканадаўства, якое цалкам не забяспечвае правы, прапісаныя ў Асноўным Законе - Канстытуцыі. У мяне на руках рашэнне міжнароднай арганізацыі, кампэтэнцыю якой прызнае нашая краіна – Камітэта па правах чалавека ААН, дзе чорным па белым запісана, што беларускі ўрад павінен сплаціць мне кампэнсацыю. Суддзі ж, пачынаючы ад раённага і да Вярхоўнага судоў не прызнаюць гэтага рашэння",* - адзначае сваю пазіцыю Л. Судаленка.

Па словах праваабаронцы на сёняшні дзень Камітэт па правах чалавека ААН прыняў ужо каля 55 рашэнняў на карысць беларускіх грамадзян, паводле якіх дзяржава павінна сплаціць сваім грамадзянам кампенсацыі.
Ні адно з гэтых рашэнняў пакуль не выканана.

## Валянцін Стэфановіч.

## *В защиту «Щ» (фельетон)*

Пачатак на 1 стар.

Я: “Ну да, понимаю, конечно, но я в повседневной жизни на русском разговариваю, и дети мои в русскоязычный садик ходят, их всего два в Минске, сын вот сейчас в русскоязычной гимназии учится и…”

Судья: «Ну вось і цудоўненька, значыць, беларускую мову разумеце, перакладчык вам не патрэбны, працягнем судовае паседжанне …”

Я: “Подождите, подождите, а как же протокол? Как секретарь прокотокол судебного заседания будет вести? Она что -- меня автоматически переводить с русского на белорусский будет? Сама? Она же не переводчик… Значит так, я требую, чтобы мои слова в протоколе отображались на русском, прямой речью, я …”

Судья: “Правапарушальнік, супакойцеся. Справаводства ў судзе вядзецца толькі па-беларуску, нам што -- з-за вашых выбрыкаў праграму ў кампутары перасталёўваць? У нас няма рускай клавіятуры… няма літар “и”, а таксама “щ”. Вось усе людзі як людзі па-беларуску гаворать, а гэтыя… выдурняюцца ўсё. Вы ж, правапарушальнік, у Менску вучыліся, дзе ўсе навокал па-беларуску гавораць, усё разумееце, што вы тут камедыю ламаеце і судовае паседжанне зацягваеце?”

Я: «Да это беспредел какой-то. У вас не только «и» и «щ» нет, у вас и все законы только на белорусском, Административного кодекса на русском даже нет. Я буду жаловаться в Товарищество русского языка имени Пушкина, в Конституционный суд, я к правозащитникам пойду, я….»

Судья: «Правапарушальнік, яшчэ раз кажу: сядзьце і супакойцеся…”
Я: “А я не сяду, я… Да это просто дискриминация русскоязычного меньшинства, нас, между прочим, русскоговорящих, по последней переписи 23%, я требую... нет я настаиваю…»

Судья: «Так, я раблю вам заўвагу, вы парушаеце парадак у судовым паседжанні. Наступны раз я буду вымушаная…”

Я: “Да пошли вы на хер с вашим судом, оккупанты проклятые!”

Судья: “Што-о-о? Гэта непавага да суда! Сакратар, паклічце міліцыянтаў і будзем складаць пратакол! Зараз у ЦІП паедзеце, хуліган!”

Тут двери распахиваются и вбегают менты, хватают меня, валят на пол…

… Я подрываюсь в ужасе с кровати, аж вспотел весь! Приснится же такое…

Странный сон какой-то… К чему бы это он интересно? К смене погоды, наверное…

gomelspring.org

# Урад Беларусі аспрэчвае рэгістрацыю ў Камітэце ААН па правах чалавека скаргі праваабаронцаў

**Урад Беларусі праз пастаяннае прадстаўніцтва краіны пры аддзяленні ААН у Жэневе аспрэчвае рэгістрацыю скаргі гомельскіх праваабаронцаў Анатоля Паплаўнага і Леаніда Судаленка, згодна з якой ім напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у дзень правоў чалавека 10 сьнежня 2010 года было забаронена правесці ў абласным цэнтры пікет супраць датэрміновага галасавання.**

Як паведаміў аўтар скаргі Анатоль Паплаўны, урад Беларусі сцвярджае, што іх скарга зарэгістраваная ў парушэнне Факультатыўнага пратаколу да Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах. У прыватнасці, урад аргументуе, пры рэгістрацыі скаргаў не павінны ўлічвацца правілы працэдуры Камітэту, яго метады працы і прэцэдэнтнае права. З дакумента вынікае, што ўрад Беларусі мае намер расцэньваць рашэнне, якое можа быць прынята Камітэтам па скарзе, як несапраўднае.

Каментуючы пазіцыю ўладаў, праваабаронцы падкрэсліваюць:

Камітэт ААН па правах чалавека спецыяльна заснаваны для кантролю захавання дзяржавамі Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах і Факультатыўнага пратакола да яго. У рамках такога кантролю, пачынаючы са сваёй першай сесіі ў 1977 годзе, Камітэт штогод прымаў дзясяткі актаў тлумачэння самога Пакта і Факультатыўнага пратаколу, якія з'яўляюцца кіраўніцтвам для ўсіх дзяржаў - удзельніц Пакта, уключаючы Беларусь.

"*А зараз Беларусь патрабуе, каб Камітэт адмовіўся ад усяго, што ён напрацаваў за гады існавання, і замяніў сваё тлумачэнне Пакта і Факультатыўнага пратаколу на вольную інтэрпрэтацыю адной з дзяржаў. Аспрэчванне рэгістрацыі індывідуальных паведамленняў - прававы нонсэнс. Камітэт у прынцыпе не можа адмяніць рэгістрацыю скаргаў*", - заявіў іншы аўтар скаргі Леанід Судаленка.

Паводле інфармацыі Леаніда Судаленка, Беларусь знаходзіцца ў першай пяцёрцы дзяржаў, з якіх прадстаўлена найбольшая колькасць індывідуальных скаргаў у Камітэт ААН па правах чалавека. Пачынаючы з 1992 года там было зарэгістравана 156 беларускіх спраў, разгляд 83 з іх яшчэ не завершаны.

gomelspring.org

# Камітэт па правах чалавека прыняў да разгляду скаргу аб забароне акцыі ў падтрымку Алеся Бяляцкага

svaboda.org (RFE/RL)

**Адпаведнае паведамленне з Жэневы атрымала былая старшыня Гомельскага гарвыканкама Святлана Гальдадэ. Камітэт па правах чалавека ААН паведамляе аб рэгістрацыі скаргі, якую яна разам з гомельскімі праваабаронцамі Анатолем Паплаўным і Леанідам Судаленка падала ў сувязі з забаронай у абласным цэнтры 4 жніўня 2012 года пікету ў падтрымку палітычна зняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага.**

Напамятаем, 4 жніўня 2012 года па ініцыятыве праваабаронцаў акцыі ў падтрымку палітвязня Алеся Бяляцкага планавалася правесці па ўсёй краіне. Заяўкі на пікеты былі пададзены ва ўсіх абласных цэнтрах і іншых гарадах краіны, і ўсюды мірныя сходы грамадзян былі забароненыя.

Святлана Гальдадэ просіць Камітэт ўсталяваць факт парушэння з боку дзяржавы яе і праваабаронцаў правоў на свабоду правядзення мірных сходаў і свабоду выказвання меркавання і рэкамендаваць беларускаму ўраду прывесці закон "Аб масавых мерапрыемствах", а таксама рашэнне мясцовай улады аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у адпаведнасць з міжнароднымі абавяза-цельствамі.

Згодна з працэдурай, пасля рэгістрацыі скаргі яна накіроў-ваюцца Ураду краіны, які цягам шасці месяцаў павінен даць свой каментар. Аўтару скаргі прадастаўляецца магчымасць пракаментаваць каментар Ураду, пасля чаго скарга чакае чаргі на разгляд, якая складае зараз у Камітэце па правах чалавека ААН складае ад 3 да 4 гадоў.

**gomelspring.org**



# Кэтрын Эштан просіць Мінск не расстрэльваць Аляксандра Грунова



Вярхоўны прадстаўнік ЕС па пытаннях знешняй палітыкі і палітыкі бяспекі Кэтрын Эштан у чарговы раз заклікала Беларусь увесці мараторый на смяротнае пакаранне. Кіраўнік еўрапейскай дыпламатыі заклікала Беларусь не расстрэльваць забойцу гомельскай студэнткі і ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне.

Яна выказала шкадаванне з нагоды смяротнага прысуду 25-гадоваму жыхару Гомеля Аляксандру Грунову, вынесенага на днях судом пасля таго, як ён ужо быў адменены. У заяве кіраўніка еўрапейскай дыпламатыі адзначаецца, што яна ўсведамляе сур'ёзнасць злачынства, але, на яе думку, смяротнае пакаранне не можа быць апраўданая нічым, і Кэтрын Эштан спадзяецца, што права Грунова “на абскарджанне будзе цалкам ажыццёўлена”.

“Еўрапейскі саюз выступае супраць смяротнага пакарання пры любых абставінах. Смяротнае пакаранне з'яўляецца жорсткім і бесчалавечным пакараннем, якое не ў стане быць стрымліваючым фактарам, і ўяўляе сабой непрымальнае адмаўленне чалавечай годнасці і цэласнасці”, - адзначаецца ў заяве вярхоўнага прадстаўніка ЕС.

Кэтрын Эштан зноў заклікала Беларусь - адзіную краіну Еўропы, дзе яшчэ ўжываецца вышэйшая мера пакарання, - далучыцца да ўсеагульнага мараторыя на смяротнае пакаранне ў якасці першага кроку да яе поўнай адмены, перадае Інтэрфакс.

Гомельскі праваабаронца Леанід Судаленка, які назіраў за ходам судовага працэсу і мае паўнамоцтвы ад Грунова на абарону яго правоў у Камітэце па правах чалавека ААН вітае заяву кіраўніка еўрапейскай дыпламатыі.

- Мы, ўдзельнікі кампаніі “Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання” дамагліся, каб з асуджанага на смяротнае пакаранне Вярхоўным судом быў зняты прысуд. Была вялікая верагоднасць, што Аляксандр Груноў не атрымае новы смяротны прысуд, пакуль у гэтую справу не ўмяшаўся Прэзідэнт. Лукашэнка не пакінуў суддзям ніякага шансу вынесці іншы прысуд па гэтай рэзананснай крымінальнай справе”, - падвёў рысу праваабаронца.

**http://gomelspring.org/**

